

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995 ЛІПЕНЬ 10 ПАНЯДЗЕЛАК

№ 100/ 1029

Цана 400 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### «ПРЭЗІДЭНТ НАСТУПАЕ НА СВОЙ ЭЛЕКТАРАТ»

Так расцанілі намер прэзідэнта ліквідаваць ільготы, якія датычацца і інвалідаў, удзельнікі прэс-канферэнцыі Беларускага таварыства інвалідаў. Бо, паводле іх слоў, 80 працэнтаў прадстаўнікоў гэтай арганізацыі падчас выбараў аддалі свае галасы за сённяшняга кіраўніка дзяржавы.

І хаця сустрэча была прысвечана ў тым ліку і ўрачыстай даце — 7-й гадавіне стварэння таварыства, яго кіраўнікі ў сваіх выступленнях выказалі занепакоенасць узаемаадносінамі з органамі ўлады. У прыватнасці, было адзначана, што апошнім часам рашэнні, якія датычацца інвалідаў, прымаюцца выканаўчай уладай без абмеркавання з Беларускім таварыствам інвалідаў. Што да льготаў, то, як лічыць старшыня Цэнтральнай управы Мікола Калбаска, нельга аднолькава падыходзіць да ўсіх ільготнікаў — інвалідаў і здаровых. «Ільготы закладзены ў законах, і скасаваць іх правамоцны толькі Вярхоўны Савет», — заявіў ён.

Наталля ВАЛАКІДА.

### ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ ЧЭКАВАЙ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

Як паведамілі ў Міністэрстве па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, чэкавай прыватызацыяй у рэспубліцы ахоплена практычна палова грамадзян — 49,8 працэнта. З тых, хто мае права на атрыманне імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» (7,8 мільёна чалавек), 3,9 мільёна ўжо звярнуліся ў камісіі для іх налічэння. З іх 3,7 мільёна грамадзян чэкі ўжо налічаны. Сертыфікаты на агульную суму 212 мільёнаў чэкаў атрымалі больш чым 2,2 мільёна чалавек. Трэць атрымаўшых сертыфікаты грамадзян цалкам або часткова скарысталі свае чэкі.

Нягледзячы на тое, што за апошнія два тыдні кошт дзяржаўнай маёмасці, падрыхтаванай да продажу, узрос у чэкавым эквіваленце амаль на 2 мільёны (у асноўным, за кошт аб'ектаў камунальнай уласнасці), большасць грамадзян па-ранейшаму аддаюць перавагу іх продажу або перадачы іншым асобам.

Ірына САЗАНОВІЧ.

### ХТО ПАДКЛАЎ МІНУ?

Пацвердзіць ці абвергнуць дачыненне «Правага рэваншу» да падзей, якія адбыліся 28 чэрвеня ў гасцініцы «Мінск», следству пакуль не ўдалося.

Аб гэтым паведаміў начальнік Маскоўскага РАУС г.Мінска Станіслаў Немагай. Нагадаем, што 28 чэрвеня ў цэнтры Мінска — у аднайменнай гасцініцы — была знойдзена выбуховая прылада, якая аказалася вучэбнай супрацьтанкавай мінай. На наступны дзень у інфармацыйнае агенцтва БелаПАН і ў дырэкцыю гасцініцы «Мінск» патэлефанаваў невядомы, паведаміўшы, што ўсю адказнасць за тэракт бярэ на сябе арганізацыя «Правы рэванш».

Аднак, па словах Станіслава Немагая, пакуль няма ніякіх падстаў лічыць, што «Правы рэванш» мае непасрэднае дачыненне да здарэння. У той жа час начальнік райаддзела лічыць, што падкінутая ў гасцініцу міна — яўна не проста хуліганскі ўчынак. Напрыклад, ёсць версія, што такім чынам хтосьці хацеў падарваць прэстыж гасцініцы, у якой пражывае шмат замежных грамадзян і размешчаны офісы розных фірм.

Ірына ЛЕЎШЫНА.

### НЕ ВРЕДЯТ. НО ПОМОГАЮТ РОСТУ

В Академии наук Беларуси прошла IV Международная конференция «Брассиностероиды (БС) — биорациональные, экологически безопасные регуляторы роста и продуктивности растений».

Ее организовали Академия наук республики, Институт биоорганической химии Академии наук, Фонд фундаментальных исследований Республики Беларусь.

Как подчеркнул академик А.Ахрем, эти вещества представляют большой интерес для сельского хозяйства, потому что они регулируют рост растений и повышают урожайность, не принося вреда окружающей среде и здоровью человека (в отличие от применяемых повсеместно химических средств защиты).

За короткий срок белорусским химикам удалось синтезировать БС и даже наладить выпуск на их основе в небольших количествах препарата эпина. На конференции, куда съехались ученые из России, Украины, городов Беларуси, разговор шел также о промышленном применении этого класса фитогормонов.

Мария НОВИЧКОВА.

### □ КОРОТКО

Как сообщили в Министерстве статистики и анализа Республики Беларусь, на строительство жилых домов в январе–мае этого года в целом по стране было освоено 1416 млрд. рублей, или 23% от общего объема капитальных вложений.

Предприятиями и организациями всех форм собственности в январе–мае введено в эксплуатацию 4,1 тыс. квартир общей площадью 307 тыс. квадратных метров, что составляет 67% к уровню января–мая 1994 года.

***

В Центральном Доме офицеров состоялся брифинг для военных атташе, аккредитованных при Министерстве обороны Республики Беларусь на тему «Состояние и перспективы развития войск ПВО Вооруженных Сил Республики Беларусь».

В своем выступлении командующий войсками генерал–лейтенант В.Костенко рассказал о системе охраны воздушных рубежей страны, о проблемах становления войск, перспективах их реформирования. Отвечая на вопросы, он подчеркнул, что приоритеты развития ПВО – их оборонительная направленность, высокая оснащенность, боеготовность, профессионализм военнослужащих.

Представители зарубежных армий побывали на командном пункте радиотехнического полка, познакомились с комплексом средств автоматизации, который обеспечивает сбор, обработку и передачу радиотехнической информации.

### БНФ ПАЦВЯРДЖАЕ КУРС

Больш за дванаццаць гадзін працягвалася ў мінулую суботу ў Мінску другая сесія IV з'езда Беларускага народнага фронту «Адраджэнне».

Удзельнікі з'езда пацвердзілі курс БНФ на набыццё рэальнай незалежнасці Беларусі і яе культурнае адраджэнне, а таму значных змен у кіраўніцтве, структуры і стратэгіі арганізацыі не адбылося. Адпаведна не адбылося і змены яе лідэра — падчас альтэрнатыўных выбараў кіраўніком руху Народнага фронту пераважнай большасцю галасоў быў пераабраны Зянон Пазьняк. Ён жа пераабраны і кіраўніком партыі БНФ.

Разам з тым удзельнікі з'езда выказаліся за больш гнуткую тактыку сваёй арганізацыі і, у прыватнасці, за неабходнасць кансалідацыі з усімі палітычнымі, грамадскімі, культурнымі, канфесійнымі аб'яднаннямі і прафсаюзамі на глебе абароны незалежнасці Беларусі.

Сярод іншых накірункаў дзейнасці Народнага фронту называліся збор сродкаў на выданне штодзённага супольнага друкаванага органа партый «незалежніцкай» арыентацыі, ліквідацыя пры яго дапамозе існуючага вакол дэмакратычных арганізацый інфармацыйнага вакууму, а таксама пачатак працы па стварэнню прывабнага іміджа БНФ у вачах беларускага выбаршчыка.

Сяргей ГРЫБ.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 10 июля 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США | | Немецкая марка | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | покупка | продажа | покупка | продажа | покупка | продажа |
| БЕЛАРУСБАНК | 11200* | 11450* | 8000* | 8250* | 1.80* | 2.50* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11100* | 11550 | 7700* | 8350 | 2.10* | 2.6 |
| ФК "ВЕРОНИКА" *** | 11250 | 11480 | 8040 | 8300 | 2.32 | 2.45 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11220 | 11480 | 7900 | 8200 | 2.25 | 2.40 |
| ПРИОРБАНК | 11200 | 11500 | 7800 | 8300 | 2.1 | 2.3 |
| СБЕРБАНК | 11150 | 11450 | 7800 | 8100 | 1.9 | 2.4 |
| ОЛИМП | 11150 | 11450 | 7841 | 8217 | 2.2 | 2.4 2.36** |
| Ф-л МИЛАВИЦА АКБ ДУКАТ | 11200 | 11500 | 7800 | 8200 | 2.1 | 2.5 |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор. дирекция) | 11200 | 11500 | 8000 | 8300 | 2.1 | 2.5 |
| ИНТЕК | 11200 | 11500 | 7900 | 8200 | 2.2 | 2.5 |
| ДУКАТ | 11150 | 11500 | 7900 | 8300 | 2.2 | 2.70** |
| МинскКОМПЛЕКСБАНК | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| ЭЛИТБАНК | 11200 | 11450 | 7800 | 8300 | 1.9 | 2.3 |
| Ф-л НЕМИГА АКБ ДУКАТ | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| Филиал №1 АКБ ОЛИМП | 11250 | 11400 | 7900 | 8150 | 2.2 | 2.4 |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11000 | 11600 | 7960 | 8390 | 2 | 2.6 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11200 | 11450 | 7700 | 8300 | 2 | 2.5 |

* Возможна операция за наличный и безналичный расчет

** Операция проводится только по безналичному расчету

В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".

| | | | |
|---|---|---|---|
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б\н расчетов) | 11500 | 8319.47 | 2.48 |

### КРИМИНАЛ

### ЭПИДЕМИЯ "МЕДНОЙ ЛИХОРАДКИ" ПРОДОЛЖАЕТСЯ

Николай ПТУХА, пресс–служба УВД Мингорисполкома.

За минувшую неделю в городе совершено 194 преступления, 109 из них раскрыто по "горячим следам". Сотрудниками городской милиции раскрыто 17 совершенных ранее преступлений.

На днях ранее судимые, нигде не работающие мужчины решили позагорать на крыше жилого дома. Проходя по чердаку, они обратили внимание на пятнадцатиметровый силовой медный кабель в электрораспределительном щите. Смекнув, что от кабеля пользы будет больше, чем от загара, они решили прихватить его с собой. Но пока возились, к ним подошел дежурный наряд Октябрьского ОВД...

Это не единичный случай хищения различных кабелей, катушек и т.п. С начала года выявлено 405 случаев краж, связанных с цветными металлами. 139 человек привлечено к уголовной ответственности.

ФОТАРЭПАРТАЖ





## НА КУПАЛЛЕ НА СВЯТОЕ...



У ноч з 6 на 7 ліпеня многія мінчане частку вечаровага часу правялі не на ўтульнай канапе, а ў гарадскім парку ці на беразе возера. Таму што прыйшло Купалле. Цудоўнае паганскае свята. Свята, якое сваімі каранямі ўходзіць у сівую даўніну, якое служыць жывой повяззю з нашымі далёкімі продкамі. Свята, якое нясе ў сабе ўсведамленне прыналежнасці да Бацькаўшчыны, павагі да роднай зямлі, якая ўскарміла «сваім малаком» большасць з нас.

Наш фотакарэспандэнт гэтую бяссонную ноч правёў на Камсамольскім возеры. І, здаецца, недарэмна. Сотні мінчан прыйшлі сюды, каб разам сустрэць Купалле, каб разам пашукаць папараць-кветку...

Фота Максіма ЯГОРАВА.

АКТУАЛЬНА

### ПРАЕКТ УКАЗА ЎЖО ГАТОВЫ

Кабінет Міністраў прадставіў для падпісання прэзідэнту праект указа аб паэтапным павышэнні з 1 ліпеня тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі.

Пра гэта паведаміў віцэ-прэм'ер Беларусі Міхаіл Мясніковіч. Павышэнне тарыфаў, як ён адзначыў, удакладніць бюджэт на другую палову бягучага года, асабліва яго расходную частку.

Гаворка ідзе пра тое, сказаў М.Мясніковіч, каб давесці да 60 працэнтаў сярэдні аб'ём затрат насельніцтва за жыллёва-камунальныя паслугі. Пры гэтым Сусветны банк будзе браць удзел у адрасным субсідзіраванні тых грамадзян, расходы якіх на ўказаныя паслугі перавысяць 15 працэнтаў агульнага сямейнага даходу. Адпаведная работа блізкая да завяршэння.

На думку віцэ-прэм'ера, рэформа тарыфнай сістэмы дазволіць істотна аздаравіць эканоміку, зменшыўшы падатковую нагрузку на прамысловасць. А неабходнасць у гэтым ёсць хаця б таму, што кошт вытворчасці 1 гігакалорыі цяпла па Мінску складае 70 долараў, тады як сусветная цана — каля 15 долараў. Гэта робіць неканкурэнтаздольнай прадукцыю многіх нашых прадпрыемстваў. Папаўненне расходнай часткі бюджэту дазволіць, напрыклад, кампенсаваць частку затрат бюджэтных арганізацый у выглядзе павышэння заробку.

Віцэ-прэм'ер назваў некалькі канкрэтных лічбаў. Да павышэння тарыфаў аплата за сярэднестатыстычную кватэру ў абагравальны перыяд складала 113 тысяч рублёў, пасля павышэння за яе трэба будзе плаціць каля 185 тысяч рублёў у месяц. Адпаведныя лічбы у ацяпляльны перыяд для трохпакаёвай кватэры: 153 і 256 тысяч рублёў у месяц, у абагравальны — 71 і 128 тысяч рублёў у месяц.

Пан Мясніковіч падкрэсліў, што субсідзіраванне насельніцтва будзе грунтавацца заяўляльным метадам. Гэта азначае, што яно будзе адрасным і рабіцца толькі па заяве, з прадастаўленнем дэкларацый аб даходах або падатках. Да пачатку абагравальнага сезона ўсе арганізацыі, якія маюць дачыненне да "адраснага субсідзіравання", павінны адпрацаваць неабходную дакументацыю і набыць адпаведны вопыт работы.

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.

ЧАС--ГРОШЫ

### АЛЁ, ТЭЛЕФАНУЙЦЕ!

У Мінску і іншых гарадах рэспублікі на працягу ліпеня мяркуецца зрабіць пераход на пачасовую аплату за карыстанне кватэрнымі тэлефонамі.

Пра гэта на ўрадавай прэс-канферэнцыі паведаміў віцэ-прэм'ер Міхаіл Мясніковіч. Абанентная плата пры гэтым застаецца на ўзроўні 10 тысяч плюс пачасовая аплата з разліку 30 рублёў за адну хвіліну гутаркі. На працягу другога паўгоддзя ўсе таксафоны мяркуецца таксама адапаведным чынам перабудаваць.

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.



КАЛЕГІЯ ПРАКУРАТУРЫ

### ЦАНА НЕАБАЧЛІВАСЦІ

Кіраўнікі шэрагу беларускіх прадпрыемстваў праяўляюць грубую неабачлівасць пры заключэнні здзелак.

«Спасылкі на недасканаласць беларускага заканадаўства дарэмныя. Наша заканадаўства, калі ім не грэбаваць і ўмела карыстацца, дапамагае звесці да мінімуму рызыку трапіць у сеці фірм-спрытнюг, якія, карыстаючыся прававой непісьменнасцю кіраўнікоў прадпрыемстваў, сёння «робяць грошы» на голым месцы», — такое меркаванне выказаў начальнік упраўлення агульнага нагляду Пракуратуры рэспублікі Міхаіл Снягір, выступаючы на калегіі Пракуратуры. На парадак дня калегіі сярод іншых было вынесена актуальнае сёння пытанне — аб выніках абагульнення практыкі пракурорскага нагляду за заключэннем і выкананнем гаспадарчых дагавораў на прадпрыемствах дзяржаўнай формы ўласнасці.

Як адзначалася работнікамі калегіі, кіраўнікі прадпрыемстваў, заключаючы дагаворы, часцей за ўсё не абцяжарваюць сябе клопатам сабраць інфармацыю аб дзелавым партнёры, яго надзейнасці і плацежаздольнасці. Бываюць выпадкі, калі дагаворы заключаюцца з незнаёмымі асобамі па тэлефоне, па пісьме-заяве. У выніку такіх здзелак прадпрыемствы нясуць велізарныя страты.

Падчас праверак выканання законаў пры заключэнні і выкананні гаспадарчых дагавораў на прадпрыемствах дзяржаўнай і камунальнай уласнасці ўзбуджана звыш 20 крымінальных спраў, прад'яўлена 562 іскі на агульную суму 1,5 мільёна долараў ЗША і 45 мільёнаў беларускіх рублёў. 83,5 працэнта гэтых іскаў былі задаволены. Найбольш распаўсюджаныя, на думку спецыялістаў, такія віды парушэнняў, як нядбайнасць, крадзеж шляхам махлярства і іншыя.

Планавалася, што на калегіі будуць заслуханы справаздачы кіраўнікоў міністэрстваў прамысловасці, эканомікі, сельскай гаспадаркі і харчавання, якія часцей за ўсё дапускалі «памылкі» пры заключэнні дагавораў, аднак прадстаўнікі іх кіраўніцтва на калегію не з'явіліся.

Святлана ЮЗІК, БелаПАН.

## РЕШЕНИЕ ИСПОЛКОМА МИНСКОГО ГОРОДСКОГО СОВЕТА ДЕПУТАТОВ

### Об улучшении санитарного содержания жилого фонда сектора индивидуальной застройки.

Вывоз твердых бытовых отходов от домовладений, принадлежащих гражданам на праве личной собственности, осуществляется с 1973 года по системе планово–регулярной очистки, не реже двух раз в неделю. В каждом районе города укомплектованы участки, разработаны маршрутные графики, которые позволяют охватить вывозом все домовладения индивидуальной застройки города. Однако, начиная с 1991 года, в кварталах домов сектора индивидуальной застройки складывается неблагоприятная санитарная обстановка из–за отказа ряда домовладельцев от услуг спецавтохозяйства по санитарной уборке города Минска.

В настоящее время из имеющихся в городе 13941 домовладения частной застройки не пользуются услугами спецавтохозяйства и не производят оплату 7644 домовладельцев (55%), из них только 1812 письменно отказались от услуг, остальные же постоянно из года в год оплату не производят. Все это приводит к захламлению и образованию неорганизованных свалок в кварталах индивидуальной застройки. Периодически принимаемые меры со стороны исполкомов райсоветов и районных отделов внутренних дел должных результатов не дают.

В целях наведения должного санитарного состояния в кварталах домов индивидуальной застройки и обеспечения контроля за организацией вывоза бытовых отходов Минский городской исполнительный комитет РЕШИЛ:

1. Обязать домовладельцев сектора индивидуальной застройки вывозить твердые бытовые отходы в специально отведенные для этого места (свалки) за чертой города путем заключения договоров со спецавтохозяйством по санитарной уборке города Минска или приобретения талонов на утилизацию отходов для вывоза собственными транспортными средствами.

2. Районным исполнительным комитетам совместно с представителями спецавтохозяйства по санитарной уборке города Минска организовать до 1.08.95 г. подворовый обход домов, принадлежащих гражданам на праве личной собственности, с предложением заключения на месте договоров или приобретения талонов на самостоятельный вывоз твердых бытовых отходов по льготным тарифам, и в последующем такие обходы проводить ежегодно до 1 марта.

Информировать для принятия мер районные отделы внутренних дел, районные центры гигиены и эпидемиологии, жилищные ремонтно-эксплуатационные объединения о домовладельцах, отказывающихся от заключения договоров и приобретения талонов на вывоз твердых бытовых отходов.

3. Управлению внутренних дел Мингорисполкома, городскому Центру гигиены и эпидемиологии, комитету по экологии ужесточить контроль за соблюдением санитарных правил содержания улиц, дворов и других территорий в секторе индивидуальной застройки.

4. Спецавтохозяйству по санитарной уборке города Минска, управлению дорожно–мостового строительства и благоустройства согласовывать с отделом ценообразования и денежного обращения Мингорисполкома изменение тарифов на услуги по вывозу твердых бытовых отходов от домовладений сектора индивидуальной застройки и стоимости талона по их утилизации.

5. Установить годовую норму накопления твердых бытовых отходов для домовладельцев индивидуальной застройки из расчета:

— с 1 человека— 1,0 куб.м;

— с 1 кв.м занимаемого участка— 0,01 куб.м;

— принять максимально убираемую площадь— до 400 кв.м.

Первый зам.председателя исполкома Г.П.Сенькевич

Управляющий делами Л.Н.Володькина

